Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 41 Серада, 5-га Лістапада 1924 г. Год I.




Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.

# Пасьля крызысу.

На паседжаньні Сойму 29 мінулага кастрычніка ясна абрысаваўся ўрадовы крызыс.

Прэм'ер-міністар п. Грабскі ад імя ураду выступіў у Сойме з заявай праверыць галасаваньнем, ці Сойм падзяляе закіды, зробленыя ўраду правіцаю ў прамове пасла Гломбінскага, які належыць да пасольскага клюбу Народна-Нацыянальнага Саюзу (Z. L. N.).

Пасол Гломбінскі вельмі востра скрытыкаваў палітыку Ураду па заграцічных справах, якімі кіруе цяпер міністар п. Скржынскі.

Як відаць з прамовы міністра заграцічных справаў п. Скржынскага, сказанае ў Сойме, заграцічная палітыка цяперашняга Польскага Ураду сапраўды моцна скіравалася ў бок дэмакратызму, што якраз вельмі не спадабалася польскім нацыяналістым, у лагеры якіх знаходзіцца, заатакаваўшы ўрад, пасол Гломбінскі.

Прычынаю выступленьня проці Ураду з боку правіцы паслужыла тое, што п. Скржынскі, будучы на вясеньняй сэсіі Лігі Народаў у Жэнэве, абмінуў вядомую заяву ангельскага прэм'ера Макдональда на пытаньню аб Верхняй Сілезіі і спамянуў аб новым курсе ўнутранае польскае палітыкі датычна нацыянальных меншасьцяў. У гэтым польскія нацыяналістыя тыпу п. Гломбінскага ўбачылі аслабленьне дастойнасьці Польшчы, як дзяржавы, ў вачох заграніцы.

Калі прыняць пад увагу акалічнасьці, пабудзіўшыя польскага міністра заграцічных справаў п. Скржынскага да вышэй сказанага характару выступленьня ў Лізе Народаў, дык нічога дзіўнага бачыць у гэтым выступленьні ня прыходзіцца.

Сам урад, які заняўся справамі ўрэгуляваньня адносін да нацыянальных меншасьцяў, будучы падтрыманым у гэтым кірунку Соймам цераз прыняцьце ім вядомых языковых законаў, даў п. Скржынскаму поўнае права загаварыць аб гэтым у Лізе Народаў, у якую даволі часта сыпаліся скаргі на ненармальнае палажэньне нацыянальных меншасьцяў у Польшчы.

І, з дэмакратычнага пункту гледжаньня, павага Польшчы за граніцаю ня толькі не панізілася ад прамовы п. Скржынскага ў Жэнэве, а наадварот—моцна паднялася.

Гэтак, а ня йначай, глядзяць на гэту справу і польскія дэмакратычныя соймавыя клюбы лявіцы, якія, ўнёсшы ў Сойм прапазыцыю аб няшкоднасьці для Польшчы заграцічнае палітыкі ўраду, выратавалі прыняцьцем яе большасьцю Сойму, насьпеўшы ўжо крызыс кабінэту п. Грабскага.

Што датычыць нерэагаваньня з боку п. Скржынскага на словы Макдональда аб Верхняй Сілезіі ў Лізе Народаў, дык гэта можна разгадаць проста, як справу асабістага дыплёматычнага такту, выказанага цяперашнім польскім міністрам заграцічных справаў.

У сваім exposé, зробленым у Сойме 28.X п. Скржынскі, паміж іншым, выразна заявіў, што *сучасная дыплёматыя — гэта барацьба за мір* і што *Польшча зьяўляецца па старане сьвятла, права і міру.*

Няўжо-ж п. Гломбінскі са сваею нацыяналістычнаю партыяю хоча быць на іншай старане, г. зн. па старане працаўнікаў эўропэйскага міру і права?

Грунтам гэтага міру міністар заграцічных справаў прызнае, як відаць з яго словаў у Сойме, міжнародныя трактаты, з якіх найважнейшымі для Польшчы зьяўляюцца, як нам здаецца, Вэрсальскі і Рыскі дагаворы, дзеля таго, што даюць ёй гарантыю вонкавай бясьпечнасьці.

Але, разам з тым, ня шкодзіла-б памятаць навет і старонынікам п. Гломбінскага ў Сойме, што гэтымі трактатамі гарантуюцца і пэўныя правы нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, а сам здаровы дзяржаўны сэнс вымагае таго, каб правы гэтых меншасьцяў былі фактычна-рэальнымі.

Сваім вотумам даверыя да заграцічнае палітыкі цяперашняга Ураду дэмакратычныя польскія партыі Сойму паказалі ясна, што кірунак гэтае палітыкі ў бок дэмакратызму зьяўляецца для Польшчы правільным.

Калі ў бок дэмакратызму і правапарадку скіруецца і ўся ўнутраная польская палітыка, дык можна мець цьвёрдую пэўнасьць, што палажэньне Польшчы яшчэ болей будзе мацнець у Эўропе.

# Ізноў напад на поезд 40 бандытаў.

„Kurjer Wileński" піша, што 3-га гэтага лістапада а 7 гадз. 30 мін. раніцай саўсім каля **Баранавіч** паміж станцыямі Даманова-Лесна, калі пасажырскі поезд № 821, ішоўшы ў кірунку Берасьця-над-Бугам, праяжджаў цераз мясцовасьць Выцень, дык быў затрыманы сыгналамі, даванымі чырвоным сьцягам.

Калі поезд стаў, дык з абодвух бакоў яго пасыпаліся стрэлы.

Бандыты ў ліку каля 40 чалавек кінуліся ў вагоны, бесцэрэмонна грабячы пасажыраў з забіраньнем іхніх багажоў і рэчаў.

Падчас барацьбы забіты адзін паліцыянт і два вайсковых.

У гэтым поезьдзе ехалі 30 адпускных салдатаў, ў якіх бандыты паграбілі мундзеры.

Дзеля таго, што напад раз'іграўся на абшары Наваградзкага ваяводзтва, бліжэйшыя падробнасьці дасюль не адтрыманы.

# Палітычны агляд.

У Амэрыцы надта вялікае значэньне маюць выбары прэзыдынта рэспублікі, дзеля таго, што ён мае шмат большую ўладу, чымся іншы кароль або імпэратар у констытуцыйнай дзяржаве. Дзеля гэтага прадвыбарная кампанія ў Амэрыцы вядзецца ўжо ад самага новага году, хаця апошні срок выбараў быў назначаны на 4 лістапада. Ужо было каля дзесяцёх падгатаваўчых выбараў. Як вялізнае заціkаўленьне ў амэрыканцаў выклікаюць выбары новага прэзыдэнта, відаць напр. з таго факту, што месцы для публікі ў залі, ў якой адбываліся падгатаваўчыя выбары, прадаваліся па 500 даляраў. Выбары амэрыканскага прэзыдэнта вельмі цікаўны таксама і для нас, дзеля той ролі, якую грае Амэрыка ў лёсе Эўропы. Дзеля гэтага варта крыху пазнаёміцца з агульнымі настроямі амэрыканскага насяленьня, палітычнымі партыямі, кандыдатамі на прэзыдэнта і спосабам выбараў.

Аснову амэрыканскай нацыі складаюць ірляндцы, эміграваўшыя з Англіі. Пасьля насяленьне Амэрыкі пачало вельмі хутка ўзрастаць, дзякуючы эміграцыі з Эўропы, Амэрыкі і Азіі. Цяпер насяленьне Злучаных Штатаў даходзіць да 110 мільёнаў. Агульным зьвязваючым цэмэнтам ёсьць толькі ангельская мова. Апрача аснаўнога насяленьня жыве каля 12-ёх мільёнаў нэграў, якіх ненавідзяць, але яны карыстаюцца ўсімі грамадзкімі правамі, і 20 міл. розных іншых нацыянальнасьцяў, яшчэ не навучыўшыхся ангельскай мовы. Гэтую рознапляменнасьць найляпей можна бачыць у вялікіх гарадох ад 2 да 5 міл. насяленьня. Гэтак напр. у Нью-Іорку на $5\frac{1}{2}$ міл. насяленьня самых жыдоў выпадае $2\frac{1}{2}$ міл. Дзеля гэтага, аб Нью-Іорку кажуць, што там жыве больш ірляндцаў, чымся у Дубліне (сталіцы Ірляндыі), італьянцаў больш, чымся у Рыме, немцаў больш, чымся у Бэрліне. У Чыкаго па $3\frac{1}{2}$ міл. насяленьня ёсьць 500.000 італьянцаў, 400.000 палякоў, пасьля нэгры, ірляндцы, немцы, чэхі, японцы, кітайцы, фінляндцы, швэды, сэрбы, баўгары, украінцы, беларусы і г. д. Раней, пакуль тэрыторыя Амэрыкі яшчэ ня была ўсюды населена, дапускаўся неаграцічаны ўезд чужаземцаў, галоўным чынам, рабочых. А цяпер уведзены строгія абмежаваньні ўезду, якія амаль што не роўназначны з поўнай забаронай. Гэтыя аграцічэньні амаль што не давялі да паважнага непаразуменьня між Амэрыкай і Японіяй.

З боку эканамічнага Амэрыка ёсьць магутным краем. Асабліва яна разбагацела ў часе вайны. Амаль што ня ўсё эўропэйскае золата перайшло ў Амэрыку. Каб зразумець разьвіцьцё амэрыканскай тэхнікі, годзі сказаць аб аўтамабільным каралі Фордзе, на фабрыках якога робяць 4.000 самаходаў у дзень. Аднаго толькі падатку ён плаціць 15 міл. даляраў у год. У Амэрыцы на кожных 7 чалавек выпадае адзін самаход. Рабочая плата ў дзень ад 5 да 12 дал. Амэрыцы вінават грошы ўвесь сьвет. Толькі адны саюзьнікі задоўжыліся за час вайны больш за 11 мільярдаў даляраў, а запушчаныя процэнты за гэтыя даўгі даходзяць да $2\frac{1}{2}$ мільярдаў даляраў.

З боку адміністрацыйнага Злучаныя Штаты дзеляцца на 48 паасобных штатаў. Выбары прэзыдэнта і законадаўчых палатаў адбываюцца па штатах. З боку палітычнага амэрыканскае насяленьне дагэтуль разьбівалася на дзьве амаль што роўныя партыі, рэспубліканскую і дэмакратычную, якія вельмі мала адна ад

аднэй розьняцца. Яны абедзьве буржуазна-капіталістычныя. А работніцкі рух, пакуль што, разьвіты яшчэ слаба. З 35-ёх міл. амэрыканскіх рабочых да прафэсіянальных саюзаў належыць усяго толькі 6 міл. Соцыялізм толькі пачынаецца. Камуністаў ня больш за 15.000. Палітычная афарбоўка краю найляпей выяўляецца ў складзе конгрэсу (парлямэнту) і сэнату (вышэйшая палата). У конгрэсе сядзіць 225 рэспубліканцаў, 207 дэмакратаў, 1 соцыялісты, 1 аграры і 1 незалежнік — усяго 435 дэпутатаў. У сэнаце рэспубліканцаў 51, дэмакратаў 43, аграрыяў 2,—усяго 96, г. зн. па 2 чалавекі на кожны штат. Як відаць з гэтага, 12 мільёнаў нэграў ня маюць ніводнага свайго прадстаўніка ў законадаўчых палатах. Кожны штат выбірае па 2 сэнатараў, незалежна ад свае велічыні. Кожны санатар мае ў сваім распараджэньні ў памешканьні сэнату 2 харошыя пакоі і 2-х сэкрэтароў. Як сэнатары, так сябры конгрэсу, адтрымоўваюць па 7.500 даляраў у год. Апрача таго, сэнатары адтрымоўваюць па 4.000 дал. на 2-х сэкрэтароў, па 2.000 на кожнага. Прэзыдэнт рэспублікі адтрымоўвае ў год 75.000 дал., а віцэ-прэзыдэнт і міністры па 12.000 дал. у год.

Цяперашні прэзыдэнт Кулідж быў выбраны прэзыдэнтам пасьля сьмерці свайго папярэдніка Гардынга на правох віцэ-прэзыдэнта, які заўсёды заступае прэзыдэнта, калі той выяжджае з краю або памірае. Прэзыдэнт і віцэ-прэзыдэнт выбіраюцца на 4 гады. Апошнія выбары пасьля Вільсона адбыліся ў 1920 годзе. 4 лістапада адбудуцца выбары ня толькі прэзыдэнта і яго заступніка, але й сэнатараў. Выбары прэзыдэнта адбываюцца гэтак: спачатку выбіраецца г. наз. колегія выбаршчыкаў, агульным лікам 531, па колькі чалавек у кожным штаце, а пасьля ўжо гэтыя выбаршчыкі выбіраюць прэзыдэнта з кандыдатаў, выстаўленых галоўнымі палітычнымі партыямі, г. зн. рэспубліканскай і дэмакратычнай, а на цяперашніх выбарах яшчэ й трэцьцяй партыяй, якую можна назваць рабочай. Пры гэтым кандыдат на прэзыдэнта павінен адтрымаць ня толькі адносную большасьць, але яшчэ й больш за палову агульнага ліку колегіі выбаршчыкаў, г. зн. ня менш за 266 галасоў. Кожны штат выбірае гэтулькі выбаршчыкаў, колькі ён мае прадстаўнікоў у абедзьвюх палатах: 531 дае суму 435 паслоў конгрэсу і 96 сэнатараў. Пры гэтым досі нейкай партыі адтрымаць у штаце нязначную адносную большасьць дзеля таго, каб адтрымаць усіх выбаршчыкаў штату. Калі ніводзін з кандыдатаў не адтрымае ў колегіі больш за палову ўсіх галасоў, дык тады прэзыдэнта выбірае конгрэс. Пры гэтым •праваліўшыяся кандыдаты ў колегіі, ня могуць выбірацца ў конгрэс, а пасьля, павінен выбіраць ня той конгрэс, які сам будзе выбраны 4 лістапада, але стары, г. зн. цяперашні, дзеля таго, што новы конгрэс пачне працаваць толькі ад 4 сакавіка будучага года.

Прэзыдэнцкія выбары ў Злучаных Штатах у гэты раз заблутваюцца дзеля дзьвёх прычын: перш-на-перш дзеля таго, што няма яснага клічу для ўсяго краю, як у 1916 г. пытаньне аб учасьці ў вайне, у 1920 г.— аб адносінах да Лігі Народаў, а па-другое, сёлета першы раз выступае на сцэну трэцяя конкурэнтная партыя, якая думае гуляць роль рабочай партыі ў Англіі. Гэтая партыя заснавалася ў 1922 годзе. Арганізатар яе — быўшы старшыня саюзу машыністых Вільям Джонсон, які склікаў у Чыкаго конфэрэнцыю, на каторую прыбылі прадстаўнікі пяцёх вялікіх чыгуначных саюзаў, машыністых, шахцёраў, разам 2½ міл. сяброў. На конфэрэнцыі было пастаноўлена заснаваць новую партыю ўва ўсіх штатах і пасьля была апрацована гэткая праграма: дамаганьне рэфэрэндуму (народнага галасаваньня) па пытаньню аб аб'яўленьні вайны, нацыяналізацыя чыгуначнай дарогі, коняў і водных шляхоў, новыя падаткі ад вялікай маемасьці і капіталаў. Гэтая партыя высунула кандыдатуру сэнатара Ляфолета, за якога стаіць таксама й партыя фэрмэраў, рабочых і прафэсіянальных саюзаў, якія дагэтуль галоўным чынам галасавалі за дэмакратаў, а іхні стары лідэр Гомпэрс староньнік палітыкі Вільсона. Яго падтрымоўваюць таксама й амэрыканскія немцы, дзеля таго, што ён быў праціўнікам уступленьня Амэрыкі ў вайну. Здабыў ён таксама й вялікія сымпатыі ў нэграў, якіх ёсьць каля 12 міл., а таксама і ў іншых інародных элемэнтаў. За яго маюцца галасаваць і соцыялістыя. З гэтага відаць, што кандыдатура Ляфолета ёсьць надта нябясьпечная для дзьвёх аснаўных партыяў, г. зн. рэспубліканскай, выставіўшай кандыдатуру цяперашняга прэзыдэнта Куліджа, і дэмакратаў, выставіўшых кандыдатуру гэн. Доўса, пад кіраўніцтвам якога быў апрацованы вядомы рэпарацыйны плян.

---

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

⊟ Пасол М. Кахановіч выйшаў з Беларускага Пасольскага Клюбу. Паводлуг адтрыманых намі інфармацыяў, прычынаю гэтага выхаду зьявілася тое, што п. Кахановіч даўно не згаджаўся з палітыкай Клюбу.

⊟ Як паведамляюць газэты, 8 гэт. лістапада адбудзецца ў Варшаве конфэрэнцыя ваяводаў Усходніх Земляў. Тэмаю конфэрэнцыі будуць справы гэтых земляў і абгавораньне адносін ваяводаў да дэлегата ўраду на гэтыя землі.

⊟ 30.X. Сойм большасьцю 210 проці 170 галасоў прыняў прапазыцыю лявіцы па пытаньню аб дэкляарацыі ўраду, выкліканай прамоваю пасла Гломбінскага. Пас. Рагуля ад імя Беларускага Клюбу заявіў перад галасаваньнем, што яго Клюб застаецца ў опозыцыі з прычыны прыгнятаньня ўрадам нацыянальных меншасьцяў і будзе галасаваць проці прапазыцыі левых партыяў, незалежна ад пагляду Белар. Клюбу на заграгічную палітыку п. Скржынскага. Па прапазыцыі пасла Гломбінскага галасаваньне было паіменным. За прапазыцыю лявіцы галасавалі: П. П. С., Вызваленьне, група Брыля, немцы, Пяст, Нац. Раб. Партыя, Хрысьціянскія дэмакраты, група Оконя і Матакевіча, а проці — Народна-Нацыянальны Саюз, група Дубановіча, Жыдоўскі, Украінскі і Беларускі клюбы, а таксама й камуністыя.

**За граніцай.**

⊟ **У Англіі** пры выбарах у парлямэнт перамаглі консэрватары, якія адтрымалі 410 месцаў, на другім месцы рабочая партыя — 152 мандаты, далей лібэралы — 39 і незалежныя лібэралы — 4. Такім чынам консэрватары выйгралі 156 месцаў, а іншыя партыі страцілі: лібэралы—112, рабочая партыя — 43 і нэзалежныя — 1 месца. Вышэйпаказаныя цыфры не ахапляюць сабою яшчэ 10 выбарчых акругоў, у якіх галасы, пакуль што, не палічаны.

⊟ **У Францыі** на паседжаньні рады міністраў прэм'ер Эрыё выступіў з дакладам аб палажэньні Францыі за граніцай.

⊟ **Парыская** газэта „Matin“ падае, што савецка-француская конфэрэнцыя адбудзецца ў студні месяцы. Калі перагаворы закончацца ўдачна, дык французы адтрымаюць концэсіі ў С. С. С. Р. Іншыя газэты пішуць, што цяпер, пасьля юрыдычнага прызнаньня саветаў Францыяй, бальшавіком лягчэй вясьці сваю пропаганду ў Францыі.

⊟ **З Японіі** паведамляюць, што на сабраньні консэрватараў міністар Като заявіў аб тым, што там аб аднаўленьні зносін з С.С.С.Р., пакуль што, ня думаюць.

⊟ Як тэлеграфуюць з **Брусэлю (Бэльгія)**, Рада Лігі Народаў прыступіла да вырашэньня англа-турэцкага конфлікту па пытаньню аб граніцы ў **Мосуле.**

⊟ Паводлуг вестак з **Мукдэну** гэн. Чан-Со-Лін заняў мясцовасьць Лян-Чу і разьбіў войскі гэн. Чы-Лі.

⊟ З **Масквы** паведамляюць што за подпісам Зіноўева. Бухарына, Мануільскага і інш. выпушчана адозва да рабочых усіх краёў і да гэрманскага пролетарыяту з прычыны выбараў у **Нямеччыне.**

⊟ Эрыё і Чычэрын тэлеграфна павіншавалі адзін аднаго з прычыны прызнаньня радавага ўраду **Францыяй.**

⊟ Спроба зрабіць мір паміж **Гэджасам** і вагабітамі ня мела ўдачы. Павадыры вагабітаў заявілі, што мір немагчымы датуль, пакуль у Гэджасе правіць эмір Алі — сын Гусэйна.

⊟ З **Белграду** паведамляюць, што афіцыяльна запярэчана чуткам аб разрыве дыплёматычных зносін паміж **Югаславіяй і Турцыяй**, які нібыто адбыўся з прычыны непадпісаньня Югаславіяй Лёзанскага трактату.

⊟ **Францускае** міністэрства заграгічных справаў адмовілася прыняць ад быўшага царскага пасла будынак расейскага пасольства з прычыны прызнаньня Францыяй саветаў de jure.

⊟ У **Бэрліне** 31. X паліцыя арыштавала быўшага камуністычнага пасла Рэйхстагу Гокэрта. Гэта ўжо пяты камуністычны пасол,

---

# Бальшавіцкае „единонеделимство“.

Тэрыторыя быўшае Расеі прозвана бальшавікамі „Саюзам Соцыялістычных Радавых Рэспублік“. На паперы імі праклямована *„незалежнасьць“* паасобных рэспублік, а напраўду ўсе гэтыя „акраінныя“ рэспублікі цалком залежаць ад таго палітычнага курсу, які паходзіць з старога Крэмля маскоўскіх цароў.

Бальшавікі ня горшыя „зьбіральнікі“ ў адно цэлае таго, што сілаю меча зьбіралася царамі.

На паперы такжа сама істнуе й нейкая констытуцыя Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік, паводле якое, акраінныя рэспублікі, як Беларусь, Украіна, Грузія, Азэйбэрджан і г. д. маюць некаторыя азнакі самастойнасьці ў сэнсе прасьветы, юстыцыі і інш.

Па сутнасьці акраінныя рэспублікі — гэта нешта накшталт самаўраду на мясцох.

Чаго варта для самых-жа бальшавікоў іхняя пісаная констытуцыя, чаго варта пісаная незалежнасьць „инородческих“ рэспублік у С.С.Р.Р., найлепей сьведчаць партыйныя спрэчкі камуністых на апошняй сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту.

Газэты паведамілі, што, напрыклад, па пытаньню аб дзяржаўнай прыналежнасьці грамадзян Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік, Чычэрын зусім шчыра заявіў, што займацца тым, належыць даны грамадзянін да тае, ці іншае з рэспублік Саюзу, няма чаго, па тэй простай прычыне, што С.С.Р.Р. — гэта не фэдэрацыя самастойных дзяржаваў, а нейкі так сабе адналіты саюз радавых рэспублік.

Кожны *саюз*, паводле юрыдычных нормаў, можа быць зложаны з двох ці некалькіх *самастойных* адзінак. Але для бальшавікоў ня істнуюць юрыдычныя нормы, выробленыя ўсім культурным сьветам. Іхняе разуменьне справядлівасьці (юстыцыі) так сама, як усё іншае, зусім сваё, асаблівае.

Аб гэткім апошнім разуменьні ўсяго па-свойму, пабальшавіцку найлепей сьведчыць той „пятушыны бой“, які адбыўся паміж „усерасейскім старастаю“ Калініным і сваімі-ж *уласнымі* бальшавіцкімі юрыстымі — народнымі камісарамі справядлівасьці ўсіх рэспублік Радавага Саюзу. Бой гэты разгарэўся на апошняй сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту падчас разгляду проекту арганізацыі судоў у цяперашняй Расеі.

Проці Калініна, які грае ролю, як-бы прэзыдэнта ўсяго С.С.Р.Р., быў навет камісар справядлівасьці Р.С.Ф.С.Р. — гэта зн. Маскоўшчыны. У лагеры юрыстых апынуўся і сам „гэнэрал-пракурор“ Крыленка. Калініна падрымліваў Ларын ды інш.

Рэч у тым, што паводлуг радавае констытуцыі, судаводзтва і арганізацыя судоў адносяцца да компэтэнцыі паасобных рэспублік, якія ўваходзяць у С.С.Р.Р. А ўрадовы проект, паданы на разгляд Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту прадбачыць адну аднолькавую сыстэму судоў для ўсяе тэрыторыі Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік, а ласьне: народны суд, губэрнскі суд і найвышэйшы суд. Падобная сыстэма аднолькавасьці судоў не істнавала навет падчас царызму ў быўшай Расейскай Імпэрыі. Навет і тады суды датарноўваліся часта да мясцовых звычаяў насяленьня, да мясцовага права, выробленага ў насяленьні традыцыяй яго адносін.

На зусім зразумелую ўвагу радавых юрыстых на чале з Крыленкай, што ўрадовы проект зьяўляецца нарушэньнем констытуцыі, Калінін проста заявіў, што *констытуцыя* ня мае ніякага значэньня, што „ўвесь гоман (разглагольствование) юрыстых аб сувэрэннасьці й сувэрэнітэце, аб самастойнасьці правоў, усё гэта—альбо гоман, або гульня на пачуцьцёх людзей“.

Сувэрэннасьць паасобных рэспублік Калінін шчыра прыраўняў да сувэрэннасьці... вёскі. — У нас у саюзе, — сказаў ён,— сувэрэнная кожная вёска, кожная рада (совет), але ў межах адведзеных ім правоў. Калі ця-

арыштованы пасьля роспуску Рэйхстагу.

≡ Прэзыдэнт **Чэхаславацкай** Рэспублікі падпісаў пратакол прыняты Лігаю Народаў 2. X. у **Жэнэве.**

≡ Паводлуг вестак з **Калькуты** (**Індыя**), загадам віцэ-караля лёрда Рыдзінга арыштована 30 выдатных дзеячоў. Спадзяюцца далейшых арыштаў; па ўсёй провінцыі робяцца вобыскі. Меры гэтыя прыняты дзеля таго, каб перашкодзіць тэрорыстычным выступленьням у **Бэнгаліі.**

≡ У **Італіі** цяпер найбольш цікавяцца працай камісіі па пытаньню аб пераглядзе констытуцыі.

≡ У **Кітайшчыне** створаны новы ўрад: прэм'ер і часовы міністар шляхоў і прасьветы — Гуанг-Фу, міністар заграні́чных і грашавых справаў Ванг, унутр. справаў Ванг-Юнг-Гіянг, староньнік Чан-Со-Ліна, ваенны міністар гэн. Хутсэнг, марскі—адмірал Тухі-Ку-Эй, абодва апошнія—староньнікі маршала Ву-Пэй-Фу.

≡ Паводлуг весткі з **Шанхаю,** гэн. Фэнг абвясьціў прэмію ў 100 000 даляраў за злаўленьне Ву-Пэй-Фу жывым, або 50.000 дал. за «яго галаву».

≡ Як паведамляюць з **Нью-Іорку,** Куліdж адтрымае большасьць галасоў на выбарах у прэзыдэнты **Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных татаў.**

≡ „Daily Herald“ паведамляе, што **ангельскі** прэм'ер Макдональд рашыў незабаўна заявіць каралю аб сваёй адстаўцы.

≡ Чэскае прэс-бюро паведамляе з **Загрэбу (Югаславія),** што лідэр **харвацкае** рэспубліканскае партыі Радзіч, пасьля сказанае прамовы проці кароны, ўцёк за граніцу.

---

# Агляд прэсы.

„Kurjer Wileński“ у апошнім нумары закрануў беларускую справу і піша:

> Польскія патрыёты павінны ўцяміць, што шкодна для нас пярэчыць патрэбнасьці ўтварэньня (? — Рэд.) нацыянальнага беларускага руху. Факт, што беларускае племя (!?—*Рэд.*) несьвядомае, а беларуская ідэя ў зачатках. Расея гэту ідэю хоча выкарыстаць дзеля свайго імпэрыялізму, дык Польшча дзеля правядзеньня ў жыцьцё ягелёнскай, міцкевічаўскай і 1863 г. ідэі, павінна падтрымаць беларускі рух, паралізуючы, ведама, ўсялякую думку аб адлучэньні Заходняй Беларусі ад Польскай Рэчыпаспалітай.

Далей аўтор кажа аб патрэбе пераняць на дзяржаўны кошт віленскую беларускую гімназію і інш. беларускія школы, бачачы ў гэтым практычныя мэты,

> дзеля таго, што трэба як мага хутчэй вырваць клыкі маскоўскім медзьвядзём.

А далей ізноў ідэолёгічныя мэты:

> Калі палякі і беларусы дайдуць да паразуменьня, дык тады споўняцца лятуценьні нашых найвялікшых ідэолёгаў, якія ў імя Незалежнай Польшчы гінулі з беларускімі праклямацыямі (дзе факты ?—Рэд.), заклікаўшымі насяленьне Літвы на барацьбу за волю і зямлю, на палёх бітваў і на шыбеніцах ад самага пачатку нашага вызваленскага руху з маскоўскай няволі. .

Наіўна напісаны, відаць някрывычным яшчэ пяром, артыкул выказвае зусім паважныя думкі.

> **Шмат беларусаў бачаць усялякае ліха ў чынах Ураду Рэчыпаспалітай і ў яго адносінах да справы сужыцьця нацыянальных меншасьцяў. Але, не пярэчым, што было зроблена шмат ліха і бястактнасьці, але у гэтым ня меншая віна й тых беларускіх патрыётаў, якія праз рожавыя акуляры глядзяць на бальшавіцка беларускую пацёмкіншчыну, дзеля таго, што яна ёсьць толькі пасткаю.**
>
> **Масква карыстаецца беларускім рухам, каб раней ці пазьней накінуць кайданы на душу ашуканага і падняволенага народу.**

Наіўная душа тутэйшага польскага аўтора думае, што беларускі рух патрабуе, каб яго... тварылі. Не, паночку, руху гэтага тварыць ня трэба, бо ён істнуе сам у народных беларускіх масах і толькі тады нечага варты для іх, калі з іх самых вынікае. Рух гэты патрабуе толькі варункаў дзеля свайго вольнага разьвіцьця... Ня ў тахт з думкаю „тварэньня“ нацыянальнага беларускага руху, гучаць словы аўтора аб ягелёнскай, міцкевічаўскай і інш. ідэях палякоў. Калі гэтыя ідэі аўтор разумее, як падзел Беларусі, дык гісторыя ўжо раз паказала, чаго варты падобныя ідэі.

---

Нездаволеньне ўва ўсходняй Беларусі ўсьцяж расьце.

„Słowo“ піша:

> Савецкая прэса стараецца ня даць вагі праявам гэтага нездаволеньня сваіх грамадзян, называючы іх дзеяльнасьцю бандытаў, прысланых Польшчай. Аднак праявы нездаволеньня робяцца ўсё больш зарганізованымі і ў сфэрах, якія кіруюць Савецкай Беларусьсю, будзяць вялізны неспакой...
>
> Надзеі ўцягнуць беларускую вёску ў кола ўплываў камуністычнае партыі разьвеяліся. Гэты залом савецкай палітыкі выклікае сярод яе кіраўнікоў раздразьненьне, якое выліваецца ў дзікім ліквідаваньні праяваў супраціўленьня на вёсцы. Але, чым больш рашучая будзе ,,усмирительная“ дзеяльнасьць бальшавікоў, тым сільнейшым і больш арганізованым будзе спраціўленьне вясковага насяленьня, і хто ведае, ці праз некалькі дзён не загарыцца на Беларусі адкрытае паўстаньне.

---

# У С.С.Р.Р.

## Справа Маліноўскага.

У Мікалаеве адбыўся суд па справе аб забойстве сельскага корэспондэнта Маліноўскага. Забойца —родны брат забітага — Андрэй Маліноўскі і яго кампаны: Сімановіч, Весялоўскі, Папандопуло, Тулюпа і міліцыянэр Сьцепун засуджаны на расстрэл. Першым тром, з прычыны іхняе несьвядомасьці расстрэл заменены вастрогам на 7 гадоў. Трох абвінавачаных засуджаны на 3 гады вастрогу.

## Жыдоўскае земляробства.

Украінскі камісарыят земляробства адвёў у Екацерынаслаўскай губэрні 300.000 дзесяцін зямлі пад жыдоускую калёнію. На гэтую зямлю будзе перасялена 3.000 жыдоўскіх сем'яў. Жыдоўскае таварыства „Джойнт“ перадало камісарыяту земляробства дзеля працы па земляўстройству 200.000 рублёў. У Украіне ёсьць каля 400.000 жыдоўскіх сем'яў, якія радавы ўрад замерваецца перасяліць у Крым і на Паволжа.

Ад імя ВУЦИК'у і цэнтральнае камісіі па справах нацыянальных меншасьцяў выданы спэцыяльны загад, які абавязвае ўсе губэрскія і акружныя выканаўчыя камітэты незабаўна пачаць перапісь бяднейшага жыдоўскага насяленьня, якое імкнецца да сельска-гаспадарчае працы. Дзеля правядзеньня перапісі будуць створаны спэцыяльныя камісіі. Задачаю гэтых камісіяў зьяўляецца шырокае інфармаваньне бяднейшага жыдоўскага насяленьня датычна надзелу зямлі жыдоўскаму працоўнаму насяленьню. Як выясьніцца разьмер неабходнага зямельнага фонду, дык цэнтральная камісія па справах нацыянальных меншасьцяў папросіць у вышэйшых дзяржаўных органаў адводу гэтага фонду і пасьля возьмецца за яго раздачу. На весну будучага году жыды, якія заявяць аб сваім жаданьні працаваць на зямлі, магчыма што ўжо адтрымаюць зямельныя надзелы.

## Экспэдыцыя на востраў Врангеля.

Карабель „Красный Октябрь“ выехаў з Уладывастоку 20 ліпня. Па дарозе ён заехаў у Петрапаўлаcк-Камчацкі і 3-га жніўня дасягнуў бухты *Провидения* (ў Бэрынгавай пратоцы, на захад ад Чукоцкага мысу). Тут ён набраў вуглю з загадзя нарыхтованага запасу і 7-га жніўня выйшаў на поўнач. 12 жніўня „Красный Октябрь“ пад'ехаў да вострава Гэрольду, які знаходзіцца ў адлежнасьці каля 30 міляў ад вострава Врангеля. Тут быў густы лёд, сярод якога карабель безрэзультатна прабаваў прайсьці да вострава Врангеля. Прышлося выехаць з лёду і абсьледаваць яго граніцу, спадзяючыся знайсьці больш лёгкі праход да вострава. Аднак-жа, спроба не ўдалася і трэ'было прабівацца цераз цяжкі лёд.

19 жніўня карабель дасягнуў вострава з усходняга боку. Экспэдыцыя абсьледавала паўднёвы бераг вострава. У аднэй бухце былі знойдзены жыхары: 1 амэрыканец і 13 эскімосаў, з іх 9 жанчын і 3 дзяцей. Прысутнасьць жыхароў на востраве тлумачыцца гэткім чынам:

У 1921 годзе на востраў Врангеля была паслана канадзкая экспэдыцыя, з-за якое вялася дыплёматычная перапіска паміж ССРР. і Англіяй. Гэтая экспэдыцыя зладжылася на кошт вядомага палярнага марахода Стэфансона. Да 1922 году ад канадзкае экспэдыцыі ня было ніякіх вестак

---

пер радавая ўлада лічыць патрэбным зрабіць яшчэ крок па шляху адбудовы ранейшага цэнтралізованага адзінства Расеі, дык свая рука пані (владыка) і ні на якія констытуцыі ссылацца ня прыходзіцца.

Дзе-ж розьніца паміж самадзяржаўем быўшых цароў і самадзяржаўем цяперашняга *„старосты всея России“* Калініна?

Якая-ж розьніца можа быць паміж судамі царскага міністра Шегловітова і судамі якога-нібудзь калінінскага таварыша Ларына?

Адзін з довадаў, які выставіў Калінін проці сваіх партыйных юрыстых, сьведчыць проста аб чыста-*старастаўскім* разуменьні прэзыдэнтам С. С. Р. Р. усялякага права: для мэтаў палітычных бальшавіком часамі трэба вінаватага апраўдаць, а невінаватага засудзіць.

Як-жа ж гэта зрабіць, калі трымацца цьвёрда буквы навет і сваіх уласных бальшавіцкіх законаў?

Дзеля узмацненьня аўторытэту „радавае ўлады“ часамі прыходзіцца бальшавіком проста паставіць каго-нібудзь да сьценкі ды расстраляць, І гэтак і робіцца, ня гледзячы на тое, што першым актам бальшавікоў, захапіўшых у 1917 годзе ўладу было скасаваньне кары сьмерці, ўведзенае на тэатры ваенных дзеяў Керэнскім.

І Калінін сваімі мудрымі старастаўскімі мазгамі прадстаўляе сабе гэткі выпадак: у аднэй з рэспублік разглядаецца маленькая справа, напрыклад у будучай, далёкай ад Крэмля каракіргіскай *области*, недзе там каля Індыі. — Дапусьцім, — кажа Калінін, — што гэта справа рэлігійная; павінны судзіць магамэтанскага мулу паводлуг юрыдычных законаў і мясцовы суд павінен мулу засудзіць, але... ў нас,—дадае далей усерасейскі стараста, — для палітычных мэтаў патрэбна, каб суд над гэтым мулою быў іншым, апраўдальным...

Ну, пэўна-ж, усерасейскаму старасьце ў сьценах маскоўскага Крэмля, вельмі прыемна гуляць, падобна да Івана Грознага, ў паміласаваньне і, зьлітаваўшыся над гэткім, напрыклад, засуджаным мясцовым каракіргіскім судом, мулою, зрабіць з гэтага мулы добрага бальшавіцкага агітатара хоць-бы і ў Індыі, каб лёнданскі сувэрэнітэт яе зьмяніць на сувэрэнітэт свой — крэмлёўскі!

А Ларын, памагаючы ўсерасейскаму старасьце ў яго хатнім разуменьні законнасьці, выстаўляе аргумэнт зусім іншага характару:

Трэба „даць магчымасьць судзьдзі паступаць паводлуг яго рэвалюцыйнага разуменьня права“.

Звычай бальшавіцкага рэвалюцыйнага права вырабіўся такі, што кожнага праціўніка і агітара проці радавае ўлады ставяць „да сьцяны“ бяз ніякай судовай цэрэмоніі. Рэальная, жыцьцёвая констытуцыя бальшавіцкае дзяржавы,—незалежна ад таго, як гэтая дзяржава ахрышчана ЦИК'ам камуністычнае партыі,—складаецца з двух фактараў істнаваньня гэтага рэжыму: ўрадовае партыі і таго насяленьня, якім яна правіць.

Няма констытуцыйнае ўлады, а ёсьць партыйная дыктатура, няма грамадзян, а ёсьць „соврабы“ ці, прасьцей кажучы, прыведзеныя ў рабства народныя масы.

Ня трэба ніякага суда, бо ёсьць у Крэмлі кучка палітычных жонглераў, якія, маючы ў сваім распараджэньні *,,достаточное количество“* чырвонаармейскіх штыхоў, маюць поўную волю кожнага „совраба“ засудзіць, альбо паміласаваць, паставіць да сьцяны і вывесьці ў расход.

Няма ніякага «саюзу рэспублік», бо па інэрцыі істнуе ,,единая и неделимая“ Бальшавізія з ,,сувэрэннымі“ советамі.

Вось як выглядае ,,инородческая“ незалежнасьць у С.С.Р.Р. Як ні круці, а кожная ,,окраина“ быўшае Расейскае Імпэрыі мусіць прымаць гэткія формы, якія ёй прыдадуць бальшавікі, напінаючы яе на свой маскоўскі капыл. І прызнацца ў гэтым яны ні на грош ня стыдаюцца.

Н. Л.

і на востраў Врангеля была паслана шукаць яе партыя пад камандаю Нойса. Гэтаю партыяю было знойдзена цела аднаго з учасьнікаў канадзкае экспэдыцыі. Далейшыя шуканьні ні да чаго не давялі. Пакінуўшы на востраве аднаго амэрыканца і 13 эскімосаў для калёнізацыі вострава і для адшуканьня трупаў рэшты учасьнікаў канадзкае экспэдыцыі, партыя Нойса ў канцы лета 1923 году вярнулася ў Нормэ (Паўночная Амэрыка). Астанкі учасьнікаў канадзкае экспэдыцыі былі, нарэшце, знойдзены і забраны савецкаю экспэдыцыяю на свой карабель. 24 жніўня экспэдыцыя скіравалася назад і 6 кастрычніка шчасьліва дасягнула бухты „Провидения“.

### Статыстыка Масквы.

„Известия“ прыводзяць гэткія даныя аб Маскве: Тэрыторыя Масквы разам з прыгарадамі займае 285 квадратных кілёмэтраў, гэткім чынам Масква займае пятае месца сярод буйных гарадоў Эўропы, будучы меншаю за Лёндан, тэрыторыя якога — 1.795 квадр. кілёмэтраў, Бэрліну (874), Парыжу (480) і Петраграду (340 квадратных кілёмэтраў).

Па размеры ўнутры гарадзкое мяжы без прыгарадаў Масква займае трэцяе месца сярод буйнейшых эўропэйскіх цэнтраў, пакідаючы першае месца Петраграду і другое Лёндану. У Маскве з прыгарадамі у 1923 г. налічвалася 28.215 домаўладаньняў, з іх незабудованых было 1.331. Каменных будынкаў ёсьць у Маскве толькі 31,1 проц. агульнага ліку будынкаў; жылых будынкаў—43.410, няжылых—43.908. Дамоў у тры паверхі і вышэй толькі 11 проц. Агульны лік кватэраў у Маскве — 192.004, з іх каля 1000 кватэраў пустуюць, з прычыны нягоднасьці для жыцьця. Кватэраў да 3-х пакояў у Маскве 31.0 проц., ад 3 да 5-х пакояў — 60,1 проц. і болей за шэсьць пакояў 8,9 проц.

### Высылка рабочых.

Адэскае ГПУ з мэтаю папярэдзіць агульную забастоўку, намечаную на 27 кастрычніка, зрабіла масавыя арышты сярод рабочых карабельных заводаў Марці і Бадзіна, камунальных прадпрыемстваў, порту, транспарту і мэталеапрацавальных заводаў. Усім арыштованым абвешчана аб высылцы іх у малазаселеныя паўночныя раёны РСФСР.

### Граніцы Радавай Расеі, Украіны і Беларусі.

У Маскве цяпер засядае спэцыяльная камісія па апрацаваньню граніцаў паміж беларускаю, расейскаю і украінскаю радавымі рэспублікамі. У гэту камісію прадстаўнікі Радавае Украіны падалі свой проект аб пашырэньні тэрыторыі Украіны праз прылучэньне да яе часьці Курскае і Варонескае губэрняў. Гэта тэрыторыя ахапляе абшар у 35.000 квадратных вёрст з насяленьнем у 2.000.000 чалавек.

Трэбаваньне аб далучэньні да Украіны гэтай тэрыторыі абапёрта украінскімі прадстаўнікамі ў камісіі на жаданьні насяленьня і эканамічных матывах, галоўным чынам, на інтарэсах бурачна-цукравое прамысловасьці.

---

# ДАРАГОЎЛЯ.

## Падвышэньне дарагоўлі ў Польшчы і за граніцаю.

Паводлуг статыстычнага аблічэньня ад часу найбольшага ўпадку цэнаў г. знач. ад канца чэрвеня да кастрычніка агульны паказьнік гуртовых цэнаў у Польшчы падняўся на 11,7 проц., тады як у Нямеччыне — на 7,9 проц., у Англіі—4,4 проц., у Францыі — 4,4 проц. Падняцьцю дарагоўлі памагло перш за ўсё падаражэньне спажыўных прадуктаў. Прадукты гэтыя расьліннага паходжаньня падаражэлі ў Польшчы на 60,4 проц., у Нямеччыне 61,8 проц., а ў Францыі 1 проц. Прадукты жывёльнага паходжаньня падаражэлі ў Польшчы на 41,7 проц., у Нямеччыне—42,2 проц., і ў Францыі 8,6 проц. Агульнае павышэньне цэнаў на спажыўныя прадукты ў Англіі — толькі на 9,5 проц. У Нямеччыне панізіліся ў цане тэкстыльныя матар'ялы на 1,3 проц., а ў Польшчы яны падаражэлі на 4,7 проц.

---

## Навіны ў тры радкі.

— Цікава, што на апошніх выбарах у ангельскі парлямэнт праваліліся сыны выдатных дзеячоў: Макдональда, Лейд-Джорджа, Бальдуіна і Гэндэрсона.

— У Бэрліне паліцыя выкрыла камуністычны склад зброі.

— Падчас сьнежнае буры загінуў каля Эрэзунду швэдзкі параход „Fylgia“ разам з экіпажам у ліку 21 чал.

— На чыгунцы Віцебск-Невель зьехаў з пуцьцёў таварны поезд. Забіта 3 чал. Разьбілася 13 вагонаў.

— У Адэсе з 122 інстытуцыяў „вычышчана“ 1227 працаўнікоў з агульнага ліку 9300.

— У Краснаярску з 3000 працаўнікоў звольнены 400.

— Сьвяшчэньнік сяла Багародзкага, Маскоўск. пав. засуджаны бальшавікамі на 8 месяц. вастрогу за прапаведзь аб шкоднасьці камсамолу.

— Паветраная камунікацыя паміж Кэнігсбэргам і Масквою спынена 1 га лістапада.

— Пецярбурскі *госиздат* абяцае надрукаваць сэнсацыйныя матар'ялы аб апошнім пэрыядзе панаваньня дынастыі Раманавых.

— Тыраж усіх савецкіх газэт у жніўні бяг. году быў роўны 3.573.422 экзэмпляраў.

— Згодна з апошнімі данымі, Масква зьядае штодня 35.000 пудоў хлеба.

— Пакуль што, ў Польшчы будзе пушчана ў абег 800 тыс. сярэбр. монэт па 2 зл. У будучыні лік іх мае пабольшыцца.

---

## На Валыні таксама нападаюць.

### Дубна.

29 кастрычніка банда з 30-ёх чалавек, азброеная стрэльбамі і бомбамі, напала на маёнтак Туркаў Пржыбыльскага, які ляжыць у Дубенскім пав. Гэтая банда была добра дысцыплінованая, акуратна спаўняючы ўсе загады свайго камандзера.

Перш-на-перш акружылі з усіх бакоў дом, пасьля зачынілі ўсе выхады і дом падпалілі. У памешканьні ў той час была ўся сям'я Пржыбыльскага разам са службай. Навокал дому стаяла бандыцкая варта.

Рэшта банды, падпаліўшы дом, кінулася на іншыя гаспадарскія і фальваркавыя будыніны. Фальварак таксама падпалілі і ён згарэў ушчэнт. У часе грабежства зачыненым у гарэўшым доме людзям удалося выскачыць праз вокны і схавацца ў садзе.

Грабежнікі зарэзалі ўсю жывёлу. Са стайні вывелі 30 коняў.

Паведамленая аб нападзе паліцыя пагналася за бандытамі. Бандытам, аднак-жа, удалося разьсеяцца і скіравацца ў бок савецкае граніцы.

Каманда аддзелаў абароны пагранічча таксама скорым маршам паслала сваю падмогу. Батальён валынскай брыгады ў гэты час ішоў на сваю пагранічную дзяляньку. Нажаль там у гэты час была толькі пяхота, а кампанія, якая была найбліжэй месца нападу, павінна была прайсьці 25 кілёмэтраў. Калі ўзяць пад увагу, што калісьці пагоня коннага патруля, які апынуўся на месцы ў 10 мінут пасьля нападу, не дала ніякіх рэзультатаў, дык пяхоце яшчэ трудней справіцца.

---

# Жыцьцё провінцыі.

### Дывэрсыйны замах на поезд у Сьвянцяншчыне.

„Kur. Wil.“ падае, адтрыманую з Сьвянцянаў, ведамасьць, што каля поўначы з 31 кастрычніка на 1 лістапада на 7 кілёмэтры ад станцыі Дукшты ў кірунку Турмонту пасажырскі поезд наехаў на перашкоду, але шчасьліва прайшоў праз яе. Сьледзтвам устаноўлена, што на чыгунцы былі зложаны падклады ў ліку 7 шт. Праходзіўшы поезд падклады гэтыя адкінуў, а адзін з іх здратаваў. Поезд не быў пашкоджаны і пайшоў далей. Улады пачалі сьледзтва і арыштавалі 3-х суб'ектаў, западозраных у прыналежнасьці да дывэрсійнае банды, якая рыхтавала замах на поезд.

### Лунінецкі працэс.

29 мінулага кастрычніка ў залю суда, разглядаўшага справу абвінавачаных у нападзе на поезд пад Лунінцом, зьявіўся пасажыр Старобінскі, фігураваўшы ў акце абвінавачаньня ў характары забітага падчас нападу. Старобінскі адтрымаў чатыры раны ад куляў, месяц ляжаў у больніцы і, выздараўшы, зьявіўся ў суд. Падчас нападу, ён пазнаў двух бандытаў — Васіля Корша і Сымона Радаюка, якіх, аднак-жа, злавіць не ўдалося.

Пры вочнай стаўцы сьведкі Шварцмана з абвінавачаным Курыловічам, сьведка гэты заявіў, што пазнае Курыловіча, цьвердзячы толькі, што пры нападзе на поезд ён меў бараду, якую цяпер згаліў. Паданае Курыловічам alibi аказалася няўдачным. Мясцовы паліцыянт Кобач заявіў аб пазнаньні ім абвінавачаных Клюкі і Леўчука, як учасьнікаў іншых нападаў. Кобач даказваў, што стрэльба Клюкі належала да забітага паліцыянта Осінскага. І Клюка і Леўчук, паводлуг паказаньняў Кобача, належалі да шайкі Тарасевіча і займаліся дастаўкаю ў Польшчу камуністычнае літаратуры. За тым дапрос адбываўся пры зачыненых дзьвярох.

Позна ўвечары 29 кастрычніка быў абвешчаны прыгавар суда, якім абвінавачаны Курыловіч і Фоц апраўданы, а справа рэшты абвінавачаных, на аснове пастановы над'звычайнага суда ў **Пінску**, перадана ў звычайны суд.

### Дунілавічы.

У вёсцы **Крыванцы**, Лучайскай вол., ад неасьцярожнага абходжаньня з вагнём згарэў дом і два хлявы Апалёніі Цярлюк; дом, пуня са збожжам, 3 стадолы, 3 хлявы Караля Бялапкі, дом Міхала Камінскага і дзьве пуні са збожжам Вацлава Дубавіка. Страты вялізныя.

У фальв. **Рожанполь**, Парафьянаўскай вол., згарэла стайня і 2 коні Адама Буша. Страты каля 6 тыс. зл. Прычына пажару невядомая.

### Падбродзьдзе.

30 кастрычніка на пацьвёртым кілёмэтры ад Вільні на вяртаўшыхся з Вільні ў Падбродзьдзе купцоў: Ляфэра, Яніча і Лапу напалі двох азброенных стрэльбамі бандытаў, якія адабралі ў купцоў увесь тавар. Бандыты ўцяклі. Пагоня без рэзультату.

---

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

═ **Конфэрэнцыя з Дэлегатам Ураду.** 3-га гэтага лістапада Старшыня Час. Беларускае Рады п. Паўлюкевіч быў у Дэлегата Ураду на Віленшчыну п. Рачкевіча, дзе адбылася доўгая конфэрэнцыя ў зьвязку з усімі пытаньнямі, паданымі ў свой час нашаю газэтаю. На конфэрэнцыі высьвеслілася, што часьць постулятаў, выстаўленых Час. Бел. Радаю, пачне рэалізавацца ў самым хуткім часе, а ласьне: пачнуць закладацца пачатковыя беларускія школы, якія будуць прыняты на дзяржаўны кошт дадаткова да зацьверджаных ужо штатаў па бюд'жэту на бягучы школьны год. У Вільні будуць адчынены гадавыя настаўніцкія польска-беларускія курсы з утрыманьнем курсантаў на дзяржаўны кошт. Адначасна будуць адчынены кароткасрочныя курсы для настаўнікаў, маючых адтрымаць школы ў гэтым годзе. Уладамі зложана матуральная камісія, якая пачне працу над тым, каб даць магчымасьць паступіць у вышэйшыя школы тым асобам, якія скончылі беларускія гімназіі. Прадбачыцца матар'яльная падмога беларускай гімназіі ў Наваградку, якая істнуе ўжо тры гады ў вельмі цяжкіх варунках.

═ **Выезд Пілсудскага.** У пядзелю 2-га гэт. лістапада выехаў з Вільні ў Сулеювак (каля Варшавы) маршалак Язэп Пілсудскі.

═ **Паездка Дэлегата Ураду.** 7-га гэтага лістапада выяжджае ў Варшаву Дэлегат Ураду на Віленшчыну п. Рачкевіч, паварот якога да Вільні мае адбыцца 11 гэт. месяца.

═ **Забясьпечаньне працоўнае інтэлігэнцыі.** Міністэрства працы і грамадзкае апекі апрацавала проект новэлі да закону аб забясьпечаньні на выпадак безработцьця. Новэля гэтая спэцыяльна датычыць забясьпечаньня працоўнае інтэлігэнцыі. У склад галоўнае управы гэт. зван. „Фонду Безработцьця“ будуць закліканы два прадстаўнікі працоўнае інтэлігэнцыі. Адначасна будуць зьменены некаторыя пункты закону — датычна вышыні ставак забясьпечаньня. Замест 5 злот. працоўныя інтэлігэнты маюць плаціць 10 злот.

Маючыя месячнае утрыманьне вышэйшае за 500 злот. ня будуць абняты законам аб забясьпечаньні на выпадак безработцьця.

═ **Зьезд старастаў.** 15 і 16 лістапада ў Дэлегатуры адбудзецца зьезд старастаў Віленшчыны. На парадку дня справы грамадзкае бясьпечнасьці, агульна-адміністрацыйныя і аб самаўрадзе.

Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**. Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.